СВАБОДА

№25 28 чэрвеня — 4 ліпеня 1994 г.

Кошт 250 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул. Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41

# Тур другі і апошні: ці даб'е сын бацьку?

- Народны Фронт ня пойдзе галасаваць
- Прагаласаваўшы за „беларускага Жырыноўскага", Беларусь зьдзівіла ўвесь сьвет
- „Партыя ўлады" хоча скарыстаць апошні шанец
- Намэнклятура пачала пакідаць тонучы карабель

Безумоўна, трохі сорамна за сваю краіну, дзе амаль палова выбаршчыкаў «пры ўсім багацьці выбару» галасуе менавіта за Лукашэнку. Але нічога кепскага пакуль ня здарылася. Для нас з вамі. Гэта няхай Вячаслаў Кебіч з кампаніяй кусаюць локці ды абдумваюць сваю змрочную пэрспэктыву.

А ў штаб-кватэры БНФ, напрыклад, пануе аптымістычны настрой. У суботу тут зьбіралася Палітычная камісія Фронту і сябры прэзыдэнцкай каманды Зянона Пазьняка. Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ сакратар Управы Вінцук Вячорка, на паседжаньні было вырашана арыентавацца на няўдзел у другім туры прэзыдэнцкіх выбараў.

Між тым Лукашэнка вырашыў, не чакаючы другога туру, «прыступіць да выкананьня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў». У пятніцу ўвечары на прэс-канфэрэнцыі ён заявіў, што зьбіраецца ў панядзелак выклікаць усіх міністраў да сябе ў штаб-кватэру (яна месьціцца ў інтэрнаце былой ВПШ у Менску), каб «азадачыць» іх наконт «забесьпячэньня ўраджаю». На пытаньне, каго ён плянуе прызначыць на пасаду прэм'ер-міністра, Лукашэнка адказаў, што «прэм'ер — не праблема, гэта вам не даярку на фэрму знайсьці». Самародак!

У суботу Лукашэнка сустракаўся зь Мечыславам Грыбам. А ў нядзелю публіка чакала яго ў грамадзкай лазьні Шклова. У гэты дзень ён заўжды прыходзіў сюды папарыцца і сустрэцца з народам, аднак гэтым разам парушыў традыцыю.

Карацей, гэтым сваім выбарам Беларусь зьдзівіла сьвет. Мы апошнімі з усіх посткамуністычных краінаў узяліся ўсенародна выбіраць кіраўніка дзяржавы — і вось табе вынік: прагаласавалі за выхаванца паліторганаў, саўгаснага дырэктара і авантурнага папуліста. У заходняй прэсе яго называюць «беларускім Жырыноўскім». Як адзначыў адзін заходні карэспандэнт, амаль у кожнай краіне былога савецкага блёку сярод кандыдатаў у прэзыдэнты быў «свой Жырыноўскі», але Беларусь — адзіная краіна, якая аддала яму перавагу.

Можна ўспомніць, як палякі іранізавалі, калі выбралі сваім прэзыдэнтам электрыка. Нават зараз саромеюцца, калі прэзыдэнт дэманструе «шчырасьць і непасрэднасьць». Але пры ўсім тым Лех Валэнса ёсьць Лех Валэнса — легенда «Салідарнасьці», лідар нацыі, Нобэлеўскі ляўрэат... Галасуючы за яго, палякі галасавалі ня толькі супраць камунізму і савецкай акупацыі. Яны бачылі побач з Валэнсам будучага прэм'ера Мазавецкага, маладога фінансіста Бальцаровіча, інтэлектуала Герэмэка... Палякі галасавалі за вяртаньне сваёй краіны да цывілізаванага і заможнага эўрапейскага парадку.

## За што галасавалі мы?

Калі распытваеш тых, хто прагаласаваў за Лукашэнку, атрымліваецца, што вельмі многія рабілі гэта чыста імпульсіўна. Яны не задумваліся, чаму менавіта яму аддаюць голас. Ім было досыць аднойчы паслухаць, як Лукашэнка «выкрываў» з парляманцкай трыбуны карупцыянэраў, а потым, калі гучала ягонае прозьвішча (ня мае значэньня, у якім кантэксьце), яно ўжо выклікала ў іх толькі пазытыўныя эмоцыі. Гэтыя эмоцыі і спрацавалі на выбарчым участку.

Але ж шмат хто галасаваў за Лукашэнку сьвядома, пабачыўшы ў ім рашучага чалавека, які абяцае ня толькі злодзеяў пасадзіць, але і ў эканоміцы парадак навесьці, ён за саюз з Расеяй, ён малады, сьмелы, яго нават забіць хацелі — наш чалавек! Але такіх «сьвядомых» сярод Лукашэнкавых 45-ці працэнтаў была меншасьць. Перавагу яму дала тая «паслухмяная маса», якая на выбарах 1990 году забясьпечыла дэпутацкімі мандатамі кампартыйную намэнклятуру. Цяпер гэтая маса хіснулася ў іншы бок. Калі б не было Лукашэнкі, значная частка ягоных галасоў (зноў жа імпульсіўна) пайшла б да Кебіча, і ў выніку ён мог бы перамагчы. Атрымліваецца, што наяўнасьць Лукашэнкі ў сьпісе кандыдатаў дапамагла праваліць «рэальнага прэзыдэнта». Падзякуем за гэта «народнаму герою».

(Працяг на стар. 4)

# Як мы прагаласавалі

**(Зьвесткі па абласьцях і г. Менску)**




## СВАБОДА набрала 87 працэнтаў

**Колькасьць падпісчыкаў на СВАБОДУ з 8 400 у другім квартале павялічылася да 15 715 у трэцім. Рост — на 87%. Мы аказаліся адзінаю газэтай, якая набрала гэткі высокі працэнт. Тым часам усе афіцыйныя выданьні страцілі падпісчыкаў: "Советская Белоруссия" (-14%), "Рэспубліка" (-8%), "Зьвязда" (-10%), "Знамя Юности" (-26%), "Народная газэта" (-19%). Зрэшты, гэта іхнія праблемы. А ў нас — трохі іншыя клопаты.**

Пасьля таго, як 8 чэрвеня Саўмін забараніў друкаваньне нашай газэты ў Доме друку, два апошнія нумары нам давялося друкаваць за 250 км. ад Менску.

Дзе будзем друкаваць гэты нумар — пакуль ня ведаем. Мы спадзяваліся выпусьціць яго ў аўторак, у нас усё было гатова. Аднак Кебіч, які на прэс-канфэрэнцыі ў панядзелак заявіў, што ён не забараняў СВАБОДУ, (хаця менавіта ад яго сыходзіла каманда), па-ранейшаму трымае Дом друку пад каўпаком.

Інфармацыя пра забарону СВАБОДЫ разыйшлася шырака па сьвеце. На працягу тыдня перад выбарамі нашую рэдакцыю наведалі каля 30 замежных журналістаў, міжнародныя назіральнікі з Эўропы і Амэрыкі. (Дарэчы, матар'ялы пра ганеньні на СВАБОДУ былі распаўсюджаныя таксама ў Кангрэсе ЗША). З-за мяжы ідуць пратэсты на імя Старшыні беларускага ўраду. Аднак сьмяротна паранены рэжым усё яшчэ ня хоча прызнаваць сваю паразу.

І ўсё ж, мы іх перамаглі. Кебічавы 17% нішто супраць нашых з вамі 87%.

**Рэдакцыя СВАБОДЫ**

**P.S. Мы ўжо зьбіраліся ехаць друкаваць газэту ў Вільню, аднак у апошні момант з Дому друку нам паведамілі, што забарона зьнятая і нас будуць друкаваць тут.**



**«Вусаты дырэктар дзяржаўнай фермы, які вядомы як „беларускі Жырыноўскі" за сваёй скрайняй папулісцкай тактыкі, перамагае на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі», — так піша амэрыканская газэта *Christian Science Monitor* (27. 06. 94).**

**Такія людзі пакідаюць нас! (На здымку: Вячаслаў Кебіч з жонкаю і сынам).**



# Заслона апусьцілася

## Але ці варта ёй было ўзьнімацца?

**Гэтыя словы Вальтэра трапляюць мне на язык. Іх ён, не стрымаўшыся, напісаў на палёх кнігі, прачытаўшы адну нікчэмную п'есу.**

Зрэшты, будзьма рэалістамі. Каманда Кебіча ў апошніх днях з дапамогаю прадажнае беларускае тэлевізіі зрабіла ўсё, каб паводле гэтак званага «сындрому Жырыноўскага» максымальна павялічыць папулярнасьць Лукашэнкі. Я ў думках лаяў Кебічавага прэс-сакратара палкоўніка Замяталіна, у якога пагоны, мабыць, адабралі розум. Гёбэльс, наколькі я разумею, палкоўнікам ня быў.

Але давайце перастанем нарэшце параўноўваць Беларусь зь якой-небудзь Францыяй. Для Беларусі, якую нічому не навучыў нават Чарнобыль, выбар Лукашэнкі — гэта вялікае і рэвалюцыйнае дасягненьне. Пакрыўджаны ўладамі бунтар з арэолам пакутніка. Тым самым выбаршчыкі адмовіліся ад намэнклятурнага бацькі нацыі — Кебіча, постаць якога ўсё больш пачынала гратэскава нагадваць Брэжнева. Да непрыстойнага сьмешную колькасьць галасоў аддалі беларусы камуністычнаму партайгеносу Новікаву. Хіба гэта не дасягненьне? Беларусь падсьвядома прагне перахварэць на Лукашэнку. Можа тады толькі яна хоць чамусьці навучыцца і штосьці зразумее.

Першым у Горадні аб правядзеньні выбараў і падліку галасоў адрапартаваў вэнэралягічны дыспансэр. Хворыя рашуча прагаласавалі за Лукашэнку. Другім быў Кебіч, на апошнім месцы ў дыспансэры апынуўся Новікаў, які атрымаў усяго адзін голас. Дакладна так, як вэнэралягічны дыспансэр, прагаласавала і ўся Беларусь. З гэтага лішні раз вынікае дыягназ, што нацыя хворая.

Хворая, але не зусім. У Мастоўскім раёне ў мястэчку Лунна і ў вёсцы Пескі на летняй практыцы апынуліся адпаведна 60 і 100 студэнтаў Менскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Яны зьехалі са сталіцы ў першы дзень датэрміновых выбараў — 13 чэрвеня, але раніцой. Паводле ж закону прагаласаваць у будзённыя дні можна было з 17 да 19 гадзін. 23 чэрвеня менскія студэнты прыйшлі галасаваць. Мясцовая выбарчая камісія была ня супраць скласьці дадатковыя сьпісы для галасаваньня, але гэта не было ў ейнай кампэтэнцыі. Аднак разьвязаньне пытаньня замарудзілася. Студэнты, бачачы, што ім могуць ня даць ажыцьцявіць свае канстытуцыйнае правы, дзеля пратэсту падрыхтавалі каністру з бэнзінам, адзін зь іх рашыўся самаспаліцца. Тады ўсім ім хуценька дазволілі прагаласаваць. Гэтыя зьвесткі былі атрыманыя мною зь неафіцыйных крыніцаў.

У Сьвіслацкім раёне прызнаныя несапраўднымі выбары па Гарнастаеўскай выбарчай акрузе №25. Матар'ялы перадалі ў пракуратуру. Рэч у тым, што сябры гэтай камісіі Шыманіца й Абрамовіч 21 чэрвеня выехалі з выбарчаю скрынкаю ў вёску Сідоркі, дзе прагаласаваў 201 жыхар. А выязджаць на просьбу вяскоўцаў можна толькі ў дзень выбараў. У вёсцы Манцавічы тая ж Шыманіца зь іншай калегай па камісіі Макарэвіч займаліся падманам пажылых людзей. Яны падавалі ім запоўненыя бюлетэні, дзе былі выкрасьлены ўсе прозьвішчы, акрамя Кебіча. Сп.Лях, напрыклад, папрасіў пакінуць яму толькі Пазьняка, але таксама атрымаў у рукі падрыхтаваны бюлетэнь з прозьвішчам Кебіча.

А што ў самой Горадні? Нейкае праваслаўнае брацтва пагражала праз тэлефон, пісала на пазьняkоўскіх плякатах, што ён — паляк і таму выселіць усіх расейцаў разам зь беларусамі ў Расею. А праз тэлефон раілі так (пра гэта паведаміла газэта «Пагоня»): «За Пазьняка не голосуй. Он нас продаст полякам. Выбор останови на Вячеславе Францевиче. Только он воссоединит нас с Россией».

Напярэдадні выбараў ініцыятыўная група Лукашэнкі хацела правесьці «шествие протеста против покушения на жизнь кандидата в президенты». Аднак не атрымала дазволу. У абласной выбарчай камісіі парушэньня ў гэтым ня бачаць, паколькі ў заяве ініцыятыўнай групы ёсьць цьверджаньне аб замаху на Лукашэнку, але афіцыйнае заключэньне гаворыць адваротнае.

У папярэднім нумары СВАБОДЫ мы паведамлялі, як адыёзна вядомы Аляксандар Прушынскі абяцаў (калі стане прэзыдэнтам) заплаціць далярамі кожнаму, хто на выбарчым бюлетэні напіша слова ГРАФ. Як мне паведамілі з выбарчага ўчастку на вуліцы Ўрублеўскага, а таксама яшчэ аднаго — такія бюлетэні траплялі ў выбарчыя скрынкі. Усе прозьвішчы ў іх былі перакрэсьленыя і вялікімі літарамі было накрэмзана «ГРАФ». Так прагаласавалі ў Горадні наіўныя людзі альбо тыя, хто не спыніў свой выбар ні на водным з кандыдатаў.

**С. ВАСІЛЕВІЧ**

# Кебічаўцы на Магілёўшчыне

## Кашмар у выбарчую ноч

**Затрымка інфармацыі пра вынікі галасаваньня на Гарадзеншчыне — гэта не мясцовая недарэчнасьць, а сплянаваная агульнадзяржаўная акцыя. Літаральна паводле такога ж сцэнара разьвіваліся ў пасьлявыбарчую ноч падзеі на Магілёўшчыне.**

Напярэдадні выбараў камісіі па выбарах Прэзыдэнта былі канчаткова адхіленыя ад доступу да інфармацыі і назіраньня за ходам галасаваньня. Сябрам камісіяў было паведамлена, што:

1) Апэратыўнае кіраваньне ў дзень выбараў перадаецца спэцыяльна ўтвораным у гарадох і раёнах групам, у склад якіх увайшлі кіраўнікі выканкамаў, іхныя намесьнікі і адказныя кіраўнікі аб'яднаньняў сувязі.

2) Вынікі галасаваньня зь месцаў будуць паступаць на тэлеграф і перадавацца ў абласную камісію толькі пасьля 8 гадзінаў раніцы 24 чэрвеня.

3) Паседжаньне абласной камісіі для зацьверджаньня вынікаў галасаваньня адбудзецца толькі на чацьверты дзень, у панядзелак.

Найбольш актыўным сябрам абласной камісіі ў дзень галасаваньня прапанавалі ролю тэхнічных статыстаў пры супрацоўніках арганізацыйнага аддзелу аблвыканкаму, якія трымалі непасрэдную сувязь з Цэнтрвыбаркамам. Падчас галасаваньня ўся апэратыўная інфармацыя зь месцаў, загады й кансультацыі праходзілі менавіта праз тэлефоны «апэратыўных групаў» выканкамаў.

Толькі настойлівыя намаганьні асобных сяброў камісіі, доўгія перамовы з кіраўніцтвам апэратыўнай групы і старшынём абласной камісіі дапамаглі высьветліць парадак сувязі зь мясцовымі камісіямі пасьля заканчэньня галасаваньня і атрымаць дазвол прысутнічаць у памяшканьні камісіі падчас збору зьвестак пра вынікі.

У пасьлявыбарчую ноч, калі асноўнаму складу абласной камісіі загадалі ісьці «спакойна адпачываць», супрацоўнікі аблвыканкаму на чале са старшынём М.Грынёвым кіравалі падлікам галасоў у раёнах і апрацоўкаю абагульняльных зьвестак па вобласьці.

Вынікі галасаваньня былі ўжо дакладна вядомыя кіраўніку гэтага «ценевага Цэнтрвыбаркаму» — першаму намесьніку прэм'ера таварышу Мясьніковічу, а тэлефон у Магілёўскай абласной камісіі маўчаў да 3-яй гадзіны раніцы. Інфармацыю пра вынікі галасаваньня, якую згодна з тэлефаграмаю Цэнтрвыбаркаму павінны былі перадаць з раёнаў да 2-й гадзіны начы, літаральна «выбівалі» да 5-й гадзіны. Многія старшыні раённых камісіяў спасылаліся на дрэнную сувязь, занятасьць нумару, а некаторыя шчыра казалі, што сп.Смыкоўскі (упаўнаважаны Саўміну па Магілёўскай вобласьці) ужо даўно атрымаў патрэбныя зьвесткі.

Цікавая і такая заканамерная акалічнасьць: чым пазьней прыходзілі ў камісію зьвесткі, тым вышэйшая ў іх была лічба падтрымкі Кебіча. Калі а трэцяй гадзіне Чэрыкаў і Чавусы перадалі вынік 16%, то а 5-й гадзіне, пасьля ўмяшаньня тав.Смыкоўскага, які трымаў непасрэдную сувязь з Мясьніковічам, — Асіповіцкі і Ленінскі раёны Бабруйска падавалі ўжо лічбу звыш 30%, якая пасьля праверкі пратаколу зьнізілася да 20%. Але ў гэты час галоўнаю падзеяй ужо сталася чарга да тэлефону, у якую выстраіліся верныя кебічаўцы Магілёўшчыны — яны сьпяшаліся павіншаваць зь перамогай А.Лукашэнку, які бавіў гэтую ноч у Шклове.

**Натальля РОСЛАВА,**
**дэпутат Магілёўскага абласнога Савету,**
**сябра абласной камісіі па выбарах Прэзыдэнта**

# «Мне дзеці сказалі галасаваць за Пазьняка»

## Выбары на радзіме Кебіча

**Падчас збору подпісаў за вылучэньне кандыдатам у Прэзыдэнты Вячаслаў Кебіч найбольшую колькасьць «падпісантаў» (7417 подпісаў) прыдбаў у Валожынскім раёне — на сваёй радзіме. А за каго ж землякі прэм'ера прагаласавалі?**

23 чэрвеня я быў там назіральнікам ад БНФ. Паехалі з выязной скрынкай у вёску Душкава ды бліжэйшыя хутары (120 выбаршчыкаў). Абабіўшы да абеду паўсотню парогаў, убачыў, што зь 70 жыхароў прыблізна 40 аддалі голас за Лукашэнку.

Адкуль ведаў?

Рэч простая. Праводзіць тайнае галасаваньне зь вясковымі бабулькамі — цяжкавата: то ня бачаць без акуляраў, некаторыя нават расьпісацца ня ўмеюць і таму прасілі выкрэсьліваць за іх, ці самі ў хаце крэсьлілі не хаваючыся. Галасаваньне пераважна адбывалася на слых: сябры камісіі зачытваюць 6 прозьвішчаў прэтэндэнтаў, просячы пакінуць толькі адно. І я вам скажу: колькі б бабулька ні адмахвалася абедзьвюма рукамі — «Людцы, ды мне ўсё роўна», «ды я ня ведаю, падкажыце», урэшце рэшт прозьвішча вырывалася: «за Кебікава», «за Лукашанца», «за Сушкевіча». Былі выпадкі, што не адразу спанатрыш, за каго чалавек хоча прагаласаваць. Прыкладам, 90-гадовая бабулька называе «Байдака». Кажам, няма такога сярод кандыдатаў. «Чакайце, пайду прынясу паперку, мне нейдзе дачка напісала...» І пакуль яна шукае выбарчае запрашэньне, адзін зь сяброў камісіі выказвае слушную здагадку: «Мяркуючы па рыфме, гэта можа быць толькі «за Пазьняка».

Хіба аднойчы мы зламаліся ад безвыніковасьці. 91-гадовая ўдава былога калгаснага каваля так і не назвала аніякага прозьвішча. «Яны што, усе вас пакрыўдзілі?» — дапякае член камісіі. «Людцы залаценькія, ды мяне толькі кот мой крыўдзіць... Сьпякла сёньня блінок, была шклянка млека ад суседзяў, ды ён мне перавярнуў. Ад раніцы я нашча...»

Калі не памяталі прозьвішча, малявалі вобразна: «Ды я за такога, хто нам, старым, па цілівізары абяцаў хлеб і малако», «а я за таго, хто з вусікамі», або «забылася як завуць, але ў каго стралялі...»

«Страляніна» тая налярэдадні выбараў шмат дадала прыхільнікаў былому саўгаснаму парторгу. Але там, дзе народ быў папярэдне загартаваны прыхільнікамі Беларускага Народнага Фронту, страляніна не дапамагла. Моцная суполка БНФ у Івянцы на чале з Алегам Рамаліноўскім мела заслужаную перамогу: Пазьняк — 609, Лукашэнка — 372, Кебіч — 244... Суседні Шыкуцёўскі ўчастак, дзе працавала Тамара Фамічэнка — таксама: Пазьняк — 221, Лукашэнка — 190, Шушкевіч — 84, Дубко — 30, Кебіч — 19... І толькі малая радзіма Кебіча (вёска Канюшаўшчына ўваходзіць у Пяршайскі выбарчы ўчастак №28) засталася вернай земляку: Дубко — 21, Кебіч — 1134, Лукашэнка — 73, Новікаў — 5, Пазьняк — 71, Шушкевіч — 53. Але на Валожыншчыне прэм'ера гэта не ўратавала *(гл. табліцу на с.3)*.

Найболыш запала мне ў той дзень пачутае ў адной вясковай хаціне з вуснаў 75-гадовых гаспадароў: «Што нам выбіраць? У нас неўзабаве выбар адзін: у зямлю. Але дзеці сказалі нам галасаваць за Пазьняка. То хіба мы ворагі сваім дзецям? Няхай будзе ў адно».

Што ж, калі праз 5-10 гадоў дзеці гэтых дзядоў падрастуць, прыйдуць у дзень выбараў на выбарчыя ўчасткі і стануць «за адно» з бацькамі ды дзядамі — будучыня Беларусі будзе сьветлая.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

**Гэты здымак быў зроблены ў дзень прэзыдэнцкіх выбараў у вёсцы Ветухна Касьцюковіцкага раёну. Радыяцыя тут — 45 кюры. Улады даўно адрапартавалі, што Ветухна пераселена, аднак у вёсцы працягваюць жыць некалькі сем'яў. Ім не да выбараў.**

# За каго мы прагаласавалі

Вынікі 1-га тура прэзыдэнцкіх выбараў, атрыманыя рэдакцыяй газэты СВАБОДА з тэрытарыяльных выбарчых камісіяў.

| | Дубко | Кебіч | Лукашэнка | Новікаў | Пазьняк | Шушкевіч |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Менск** | **3,5%** | **18,2%** | **26,5%** | **4,5%** | **20,9%** | **21,2%** |
| Заводзкі раён | 3,7 | 13,6 | 33,7 | 4,6 | 21,7 | 18,0 |
| Кастрычніцкі раён | 3,7 | 16,3 | 25,8 | 4,8 | 22,3 | 22,0 |
| Ленінскі раён | 3,2 | 15,8 | 30,0 | 4,0 | 20,9 | 21,0 |
| Маскоўскі раён | 3,8 | 16,6 | 26,4 | 4,4 | 22,0 | 21,9 |
| Партызанскі раён | 3,4 | 21,7 | 25,9 | 5,1 | 18,7 | 20,0 |
| Першамайскі раён | 3,3 | 25,3 | 21,5 | 4,6 | 18,6 | 21,1 |
| Савецкі раён | 3,2 | 20,7 | 21,6 | 5,0 | 21,0 | 23,4 |
| Фрунзэнскі раён | 3,7 | 16,3 | 26,3 | 4,2 | 22,4 | 22,2 |
| Цэнтральны раён | 3,2 | 24,3 | 22,7 | 4,9 | 17,8 | 21,9 |
| **Менская вобласьць** | **7,9** | **14,9** | **44,5** | **4,3** | **15,3** | **8,6** |
| Барысаў | 4,0 | 34,5 | 27,2 | 5,1 | 9,0 | 5,5 |
| Барысаўскі раён | 8,6 | 19,0 | 42,6 | 10,1 | 9,2 | 5,4 |
| Вялейка | 3,4 | 11,3 | 31,3 | 4,6 | 31,6 | 12,9 |
| Вялейскі раён | 6,3 | 10,1 | 40,8 | 5,5 | 23,7 | 8,2 |
| Дзяржынск | 5,1 | 10,5 | 47,1 | 3,0 | 14,1 | 15,1 |
| Дзяржынскі раён | 10,4 | 16,3 | 42,8 | 2,8 | 14,0 | 10,7 |
| Жодзіна | 4,1 | 16,5 | 37,8 | 3,0 | 19,1 | 14,8 |
| Заслаўе | 5,6 | 8,5 | 43,9 | 3,2 | 20,2 | 15,0 |
| Маладэчна | 3,9 | 4,1 | 25,3 | 4,5 | 32,3 | 14,6 |
| Маладэчанскі раён | 9,7 | 11,5 | 35,5 | 3,9 | 26,9 | 8,4 |
| Менскі раён | 7,7 | 18,0 | 38,7 | 4,9 | 17,2 | 13,4 |
| Салігорск | 5,0 | 9,0 | 47,0 | 3,0 | 24,0 | 12,0 |
| Салігорскі раён | 14,1 | 7,2 | 62,6 | 2,5 | 7,0 | 3,2 |
| Слуцак | 4,2 | 15,8 | 55,5 | 4,5 | 9,0 | 7,0 |
| Слуцкі раён | 13,7 | 5,7 | 66,2 | 2,5 | 6,4 | 2,8 |
| Нясьвіскі раён | 8,9 | 9,1 | 42,5 | 2,1 | 23,7 | 8,6 |
| Бярэзінскі раён | 9,9 | 11,2 | 62,2 | 3,3 | 6,1 | 4,4 |
| Валожынскі раён | 4,9 | 25,3 | 33,0 | 1,8 | 23,8 | 7,0 |
| Капыльскі раён | 8,6 | 7,3 | 62,4 | 6,9 | 7,2 | 5,5 |
| Клецкі раён | 4,9 | 9,0 | 62,9 | 2,4 | 10,3 | 7,1 |
| Крупскі раён | 12,3 | 11,6 | 55,6 | 5,9 | 6,4 | 3,8 |
| Лагойскі раён | 7,7 | 14,9 | 45,7 | 8,8 | 13,0 | 5,6 |
| Любанскі раён | 7,8 | 11,4 | 62,3 | 4,2 | 6,7 | 3,7 |
| Мядзельскі раён | 6,4 | 10,7 | 37,4 | 3,2 | 26,9 | 11,4 |
| Пухавіцкі раён | 11,3 | 21,7 | 40,8 | 4,9 | 9,5 | 7,0 |
| Смалявіцкі раён | 9,0 | 14,5 | 44,4 | 5,3 | 13,8 | 8,4 |
| Старадарожскі раён | 10,3 | 11,5 | 61,0 | 3,4 | 5,9 | 3,6 |
| Стаўпецкі раён | 14,5 | 9,8 | 44,8 | 1,9 | 17,5 | 7,8 |
| Узьдзенскі раён | 8,8 | 8,1 | 57,5 | 3,0 | 12,1 | 6,0 |
| Чэрвенскі раён | 18,5 | 8,9 | 48,5 | 5,1 | 9,0 | 5,5 |
| **Берасьцейская вобл.** | **5,3** | **13,9** | **53,5** | **3,2** | **11,7** | **8,7** |
| Берасьце | 3,4 | 22,2 | 39,9 | 4,8 | 10,9 | 14,1 |
| Берасьцейскі раён | 10,0 | 14,9 | 53,4 | 3,8 | 7,0 | 6,3 |
| Баранавічы | 3,5 | 16,3 | 44,7 | 4,7 | 14,9 | 12,7 |
| Баранавіцкі раён | 11,1 | 11,2 | 54,1 | 2,5 | 11,0 | 6,5 |
| Кобрынь | 3,2 | 13,2 | 63,0 | 2,3 | 9,0 | 12,7 |
| Кобрынскі раён | 7,0 | 11,7 | 67,8 | 1,8 | 4,1 | 3,3 |
| Лунінец | 2,4 | 10,5 | 60,4 | 1,9 | 13,1 | 8,9 |
| Лунінецкі раён | 6,2 | 6,2 | 69,7 | 1,4 | 9,3 | 4,8 |
| Пінск | 1,9 | 13,1 | 48,7 | 4,5 | 12,5 | 15,5 |
| Пінскі раён | 3,7 | 12,0 | 67,6 | 2,1 | 6,2 | 5,0 |
| Бярозаўскі раён | 5,4 | 10,8 | 55,2 | 1,9 | 13,7 | 7,8 |
| Ганцавіцкі раён | 5,2 | 6,8 | 66,0 | 2,3 | 12,4 | 3,7 |
| Драгічынскі раён | 4,1 | 7,1 | 73,2 | 1,5 | 7,3 | 3,7 |
| Жабінкаўскі раён | 6,0 | 15,5 | 53,3 | 2,5 | 7,6 | 11,0 |
| Іванаўскі раён | 1,5 | 14,4 | 62,4 | 1,4 | 7,5 | 6,2 |
| Івацэвіцкі раён | 3,9 | 7,9 | 65,2 | 2,6 | 12,0 | 4,9 |
| Камянецкі раён | 6,6 | 12,2 | 67,7 | 1,5 | 4,5 | 4,0 |
| Ляхавіцкі раён | 7,0 | 6,8 | 63,0 | 1,9 | 16,0 | 5,1 |
| Маларыцкі раён | 8,5 | 24,1 | 45,0 | 9,9 | 6,8 | 6,2 |
| Пружанскі раён | 8,8 | 12,6 | 57,3 | 1,8 | 9,4 | 6,9 |
| Столінскі раён | 10,1 | 13,2 | 32,3 | 2,8 | 31,8 | 6,0 |
| **Віцебская вобл.** | **6,7** | **19,3** | **46,0** | **6,0** | **9,4** | **7,1** |
| Віцебск | 3,1 | 25,8 | 40,4 | 8,0 | 7,2 | 8,6 |
| Віцебскі раён | 6,9 | 20,0 | 52,9 | 7,4 | 3,7 | 3,6 |
| Наваполацак | 4,1 | 20,4 | 38,2 | 5,6 | 10,0 | 16,0 |
| Ворша | 2,5 | 16,1 | 57,2 | 5,3 | 8,3 | 5,0 |
| Аршанскі раён | 6,7 | 15,3 | 55,6 | 7,6 | 5,7 | 3,6 |
| Полацак | 3,8 | 24,4 | 43,3 | 7,3 | 7,1 | 8,1 |
| Полацкі раён | 9,1 | 35,6 | 35,6 | 5,5 | 3,9 | 4,6 |
| Лепельскі раён | 8,1 | 26,3 | 49,6 | 3,2 | 4,7 | 4,3 |
| Бешанкавіцкі раён | 13,0 | 15,2 | 49,6 | 9,7 | 4,9 | 3,5 |
| Браслаўскі раён | 19,6 | 12,9 | 25,7 | 3,3 | 26,0 | 6,7 |
| Верхнядзьвінскі раён | 12,0 | 20,0 | 45,0 | 5,6 | 5,4 | 6,6 |
| Гарадоцкі раён | 8,5 | 19,8 | 55,3 | 4,4 | 3,8 | 3,8 |
| Глыбоцкі раён | 8,2 | 10,2 | 39,0 | 1,5 | 27,9 | 8,4 |
| Докшыцкі раён | 9,3 | 12,4 | 44,5 | 3,4 | 18,3 | 7,6 |
| Дубровенскі раён | 5,1 | 20,0 | 58,9 | 6,9 | 2,8 | 3,0 |
| Лёзьненскі раён | 2,1 | 6,8 | 81,8 | 2,8 | 1,8 | 1,6 |
| Мёрскі раён | 17,6 | 12,1 | 40,1 | 1,6 | 12,0 | 12,0 |
| Пастаўскі раён | 6,8 | 21,4 | 26,7 | 1,9 | 24,0 | 14,1 |
| Расонскі раён | 9,4 | 23,0 | 41,9 | 7,7 | 4,8 | 4,9 |
| Сеньненскі раён | 6,3 | 11,5 | 61,1 | 8,6 | 4,0 | 3,2 |
| Талачынскі раён | 5,5 | 13,7 | 59,6 | 5,9 | 5,9 | 3,4 |
| Ушацкі раён | 12,5 | 10,1 | 55,2 | 6,4 | 6,3 | 4,9 |
| Чашніцкі раён | 6,0 | 14,3 | 44,6 | 12,3 | 13,0 | 5,3 |
| Шаркаўшчынскі раён | 15,1 | 9,8 | 42,0 | 2,1 | 18,3 | 8,5 |
| Шумілінскі раён | 12,0 | 13,5 | 56,1 | 4,0 | 5,5 | 4,5 |
| **Гомельская вобл.** | **5,5** | **23,1** | **45,5** | **5,0** | **6,3** | **8,6** |
| Гомель | 2,8 | 25,7 | 34,8 | 5,7 | 9,3 | 14,5 |
| Гомельскі раён | 6,1 | 26,9 | 42,8 | 5,6 | 4,7 | 6,4 |
| Добруш | 4,1 | 28,5 | 43,9 | 5,8 | 4,2 | 5,4 |
| Добрускі раён | 8,0 | 33,0 | 38,6 | 3,0 | 3,7 | 6,1 |
| Жлобін | 4,4 | 26,3 | 32,6 | 6,6 | 9,2 | 10,9 |
| Жлобінскі раён | 8,6 | 22,3 | 49,7 | 4,6 | 4,5 | 4,4 |
| Калінкавічы | 3,3 | 20,9 | 50,1 | 4,7 | 5,5 | 9,6 |
| Калінкавіцкі раён | 5,2 | 20,0 | 60,7 | 3,0 | 2,5 | 3,4 |
| Мазыр | 4,1 | 17,4 | 50,3 | 5,2 | 7,2 | 10,0 |
| Мазырскі раён | 7,2 | 13,5 | 59,7 | 5,0 | 4,0 | 4,3 |
| Рагачоў | 6,9 | 18,8 | 43,4 | 6,1 | 9,7 | 9,0 |
| Рагачоўскі раён | 9,9 | 18,8 | 55,3 | 3,7 | 3,6 | 3,2 |
| Рэчыца | 6,6 | 18,7 | 41,2 | 6,8 | 8,4 | 12,0 |
| Рэчыцкі раён | 10,4 | 18,3 | 45,1 | 8,8 | 5,5 | 6,1 |
| Сьветлагорск | 5,1 | 16,3 | 48,2 | 9,4 | 9,4 | 9,6 |
| Сьветлагорскі раён | 8,9 | 13,7 | 62,9 | 2,8 | 3,3 | 3,2 |
| Акцябарскі раён | 7,6 | 14,5 | 57,3 | 6,7 | 3,6 | 3,7 |
| Брагінскі раён | 6,0 | 18,5 | 58,0 | 6,6 | 1,9 | 3,8 |
| Буда-Кашалёўскі раён | 5,7 | 28,3 | 46,8 | 3,7 | 4,2 | 4,5 |
| Веткаўскі раён | 7,5 | 46,0 | 36,7 | 3,1 | 1,9 | 4,5 |
| Ельскі раён | 6,5 | 23,1 | 53,9 | 4,6 | 3,0 | 4,0 |
| Жыткавіцкі раён | 7,0 | 14,9 | 58,8 | 2,7 | 4,4 | 5,6 |
| Кармянскі раён | 2,9 | 33,3 | 46,1 | 2,8 | 2,5 | 2,5 |
| Лельчыцкі раён | 3,6 | 18,5 | 64,0 | 2,7 | 2,6 | 4,2 |
| Лоеўскі раён | 8,7 | 16,4 | 55,9 | 3,9 | 4,3 | 5,8 |
| Нараўлянскі раён | 3,8 | 25,1 | 56,3 | 0,6 | 2,0 | 3,6 |
| Петрыкаўскі раён | 3,9 | 21,9 | 57,2 | 3,8 | 3,2 | 5,2 |
| Хойніцкі раён | 6,5 | 16,0 | 62,6 | 4,1 | 2,1 | 4,2 |
| Чачэрскі раён | 2,1 | 57,4 | 28,5 | 2,0 | 1,3 | 2,7 |
| **Гарадзенская вобл.** | **8,5** | **14,7** | **35,9** | **3,1** | **20,6** | **10,2** |
| Горадня | 4,0 | 16,0 | 38,7 | 3,0 | 17,0 | 14,5 |
| Гарадзенскі раён | 19,0 | 12,6 | 40,6 | 2,6 | 11,9 | 6,9 |
| Ваўкавыск | 3,99 | 9,8 | 31,0 | 6,0 | 27,6 | 16,0 |
| Ваўкавыскі раён | 8,0 | 13,0 | 44,0 | 2,0 | 17,8 | 9,0 |
| Ліда | 4,0 | 15,0 | 24,9 | 3,0 | 31,8 | 15,0 |
| Лідзкі раён | 7,6 | 13,5 | 32,0 | 1,6 | 29,8 | 10,0 |
| Навагрудак | 5,6 | 9,7 | 45,0 | 2,0 | 21,7 | 10,6 |
| Навагрудзкі раён | 10,8 | 7,5 | 57,9 | 2,0 | 11,0 | 5,0 |
| Слонім | 6,0 | 24,6 | 27,8 | 2,0 | 22,0 | 10,0 |
| Слонімскі раён | 9,6 | 19,8 | 38,6 | 2,0 | 18,9 | 5,0 |
| Смаргонь | 4,5 | 18,0 | 16,0 | 2,0 | 38,0 | 16,0 |
| Смаргонскі раён | 15,6 | 13,0 | 20,6 | 1,9 | 34,0 | 9,0 |
| Астравецкі раён | 18,0 | 21,0 | 15,0 | 1,9 | 27,0 | 9,0 |
| Ашмянскі раён | 26,8 | 8,0 | 27,7 | 1,6 | 23,0 | 7,0 |
| Бераставіцкі раён | 11,0 | 12,0 | 49,0 | 1,0 | 13,0 | 6,0 |
| Воранаўскі раён | 16,0 | 23,0 | 28,0 | 1,4 | 22,0 | 6,7 |
| Дзятлаўскі раён | 9,0 | 17,0 | 38,6 | 3,5 | 18,9 | 7,8 |
| Зэльвенскі раён | 7,0 | 14,8 | 40,0 | 1,7 | 23,6 | 6,0 |
| Івейскі раён | 8,0 | 9,9 | 26,7 | 2,0 | 40,0 | 7,9 |
| Карэліцкі раён | 7,9 | 9,6 | 55,0 | 1,9 | 11,9 | 7,0 |
| Мастоўскі раён | 12,0 | 10,0 | 41,8 | 4,7 | 14,0 | 10,5 |
| Сьвіслацкі раён | 9,6 | 7,7 | 57,0 | 1,7 | 12,0 | 6,0 |
| Шчучынскі раён | 7,9 | 15,0 | 43,6 | 1,9 | 18,0 | 7,0 |
| **Магілёўская вобл.** | **4,4** | **17,0** | **63,0** | **3,5** | **4,7** | **3,8** |
| Магілёў | 2,9 | 12,8 | 64,5 | 3,3 | 6,2 | 6,5 |
| Магілёўскі раён | 3,5 | 12,2 | 73,0 | 3,1 | 2,2 | 2,0 |
| Бабруйск | 3,8 | 25,4 | 49,6 | 3,8 | 8,1 | 5,3 |
| Бабруйскі раён | 16,5 | 13,2 | 55,7 | 3,7 | 4,6 | 2,4 |
| Асіповічы | 4,4 | 29,7 | 37,0 | 8,5 | 8,0 | 8,4 |
| Асіповіцкі раён | 9,6 | 20,9 | 48,3 | 6,6 | 5,6 | 4,6 |
| Быхаўскі раён | 3,9 | 24,9 | 59,6 | 2,1 | 2,4 | 1,6 |
| Бялыніцкі раён | 2,9 | 7,2 | 79,3 | 3,0 | 2,7 | 1,9 |
| Горкі | 3,8 | 10,5 | 69,0 | 1,8 | 8,6 | 3,4 |
| Горацкі раён | 3,9 | 11,7 | 75,2 | 1,7 | 2,4 | 1,7 |
| Крычаў | 1,7 | 16,4 | 66,0 | 7,4 | 3,0 | 2,0 |
| Крычаўскі раён | 4,7 | 13,6 | 62,0 | 11,7 | 2,0 | 1,7 |
| Глускі раён | 12,3 | 25,7 | 43,6 | 4,7 | 6,6 | 3,7 |
| Дрыбінскі раён | 3,9 | 12,7 | 71,0 | 2,4 | 2,3 | 1,2 |
| Касьцюковіцкі раён | 2,4 | 23,1 | 67,0 | 2,0 | 1,7 | 1,2 |
| Кіраўскі раён | 5,9 | 17,9 | 65,9 | 3,5 | 2,3 | 1,8 |
| Клімавіцкі раён | 4,2 | 13,8 | 70,5 | 2,4 | 1,2 | 1,3 |
| Клічаўскі раён | 10,5 | 16,8 | 57,8 | 4,6 | 4,6 | 2,9 |
| Краснапольскі раён | 9,0 | 19,0 | 59,7 | 4,9 | 1,9 | 1,0 |
| Круглянскі раён | 3,8 | 9,6 | 78,2 | 2,5 | 2,2 | 1,4 |
| Мсьціслаўскі раён | 3,6 | 19,3 | 67,8 | 3,4 | 1,3 | 1,5 |
| Слаўгарадзкі раён | 3,1 | 23,0 | 62,8 | 3,5 | 2,4 | 2,1 |
| Хоцімскі раён | 4,1 | 21,8 | 67,7 | 1,3 | 1,5 | 1,3 |
| Чавускі раён | 2,3 | 12,3 | 78,6 | 1,7 | 1,5 | 0,8 |
| Чэрыкаўскі раён | 7,6 | 16,2 | 65,1 | 2,3 | 3,0 | 2,4 |
| Шклоўскі раён | 2,3 | 5,9 | 85,0 | 1,8 | 1,6 | 0,9 |
| ***Агульныя вынікі па Беларусі*** | **5,9%** | **17,3%** | **44,8%** | **4,3%** | **12,8%** | **9,9%** |

Der Spiegel:

# Спакойныя беларусы далі маху і прагаласавалі за шарлатана

Агляд заходняй прэсы

Заходнія журналісты былі непрыемна ўражаныя вынікамі першага туру прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі. Практычна ўва ўсіх публікацыях на гэтую тэму адзначаецца, што беларусы прагаласавалі за яўнага папуліста. А нямецкі штотыднёвік *Der Spiegel* нават піша, што спакойныя і цярплівыя беларусы, якіх мала абыходзіць вялікая палітыка, «у мінулы чацьвер далі маху і прагаласавалі за тое, каб кіраўніком дзяржавы стаў шарлатан».

Усе замежныя журналісты зьвяртаюць увагу на нечаканасьць перамогі Лукашэнкі, які ў бальшыні сацыялягічных апытаньняў саступаў Кебічу. Амэрыканская газэта *The Christian Science Monitor* так характарызуе пераможцу першага туру выбараў: «Вусаты дырэктар саўгаса Лукашэнка вядомы як «беларускі Жырыноўскі» не з-за сваіх нацыяналістычных поглядаў, а з-за сваёй скрайняй папулісцкай тактыкі. Ягоныя абяцаньні аднавіць СССР, зьнізіць цэны і расправіцца з карумпаванымі чыноўнікамі знайшлі падтрымку найперш сярод простых рабочых, шмат хто сярод якіх жыве ў галечы пасьля краху Савецкага Саюзу ў 1991 г.»

Газэта *The New York Times* таксама параўноўвае Лукашэнку з Жырыноўскім і піша, што вынікі выбараў пацьвердзілі, наколькі заклапочаныя людзі ў постсавецкіх краінах сваім цяперашнім жыцьцёвым становішчам. Карэспандэнт газэты піша: «Людзі маюць што сказаць у краіне, дзе інфляцыя дасягае 40% у месяц і з кожным днём становіцца ўсё меней працоўных мейсцаў. Таму, як і падчас парляманцкіх выбараў у Расеі, людзі выкарысталі гэтую нагоду, каб сказаць «не» цяперашняму ўраду».

Брытанская газэта *The Guardian* піша, што выбух папулярнасьці Лукашэнкі тлумачыцца не ў апошнюю чаргу сэрыяй інцыдэнтаў, што адбыліся зь ім напярэдадні выбараў. Карэспандэнт газэты лічыць, што «замах» на жыцьцё кандыдата, сапраўдны або інсцэніраваны, істотна дадаў Лукашэнку папулярнасьці. Газэта зазначае, што «гэта было апошнім эпізодам у перадвыбарчай кампаніі Лукашэнкі, якога ўвесь час перасьледавалі загадкавыя «напады крымінальнікаў», што і стварыла яму тэлевізійны імідж бясстрашнага змагара.» *The Guardian* нагадвае, што Лукашэнка «актыўна падтрымаў путчыстаў у 1991 г., а пасьля распаду СССР зьнік з палітычнага жыцьця і стаў дырэктарам саўгаса». Аўтар артыкула таксама цытуе аднаго палітычнага аналітыка, які так абмаляваў партрэт трыумфатара першага туру беларускіх прэзыдэнцкіх выбараў: «Лукашэнка хутка набыў рэпутацыю чалавека зь не надта ўстойлівымі поглядамі, ці, лепей сказаць, асобы бяз прынцыпаў, здольнай абараняць з аднолькавым імпэтам абсалютна супрацьлеглыя ідэі. Ён выказвае погляды, якія яму найбольш выгадныя ў дадзены момант».

В.Г.

# Польскі друк пра паразу Кебіча

**Польская прэса жыва адгукнулася на нечаканы вынік першага туру прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.**

Карэспандэнтка газэты *Rzeczpospolita* адзначае, што выбарчы посьпех Лукашэнкі прагназаваўся, але ніхто не разьлічваў, што ён будзе такі пераканаўчы. Гэта, на ейную думку, сьведчыць пра поўную грамадзкую расчараванасьць беларусаў. Кебічу не дапамагла ані падтрымка з боку ўрадавага апарату, ані зьніжэньне цэнаў на асноўныя тавары за 14 дзён да выбараў, ані роспачная паездка за дзень да выбараў у Маскву. Ён вярнуўся адтуль з навіной, што Расея — нягледзячы на грашовы саюз — ня будзе ўмешвацца ў беларускі бюджэт. Але беларусам ужо ўстылі пустыя абяцаньні, піша далей журналістка, і яны добра памятаюць пра рэаліі, напрыклад, пра тое, што на мінімальны заробак у краіне можна набыць толькі 2,5 кг цыбулі.

Карэспандэнт варшаўскай *Gazety Wyborczej* мяркуе, што ў другім туры выбараў Кебіч мае малыя шанцы. Назольная перадвыбарчая кампанія, якую ён праводзіў, адбіла ахвоту галасаваць за яго нават у ягоных прыхільнікаў. Журналіст зазначае, што калі Кебічу ў першым туры не дапамаглі ані грошы зь дзяржаўнага бюджэту, ані абяцаньні падвысіць заробкі, ані маніпуляцыі дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, дык невядома, што можа яму дапамагчы зараз. Адзіная магчымасьць для яго — паспрабаваць утрымацца пры ўладзе незаконным шляхам.

Далей карэспандэнт *Gazety Wyborczej* піша: «Лукашэнка здабыў папулярнасьць, атакуючы стары камуністычны апарат. Аднак і ён не выступае за радыкальны разрыў сувязяў з Масквой. А на крысе свайго пінжака ён усё яшчэ носіць дэпутацкі значок часоў СССР».

Вінцук ШОСТКА

# Як беларускі МЗС ня даў узнагародзіць Васіля Быкава

**«Гэты ганебны факт, які абурыў пісьменьніцкую грамадзкасьць Масквы, варты таго, каб пра яго даведаліся і ў Расеі, і ў Беларусі...» — так напісаў у мінулы чацьвер у «Известиях» Валянцін Аскоцкі, сакратар выканкаму Садружнасьці саюзаў пісьменьнікаў (СПП).**

Ён паведаміў, што за тры тыдні да 70-гадовага юбілею Васіля Быкава выканкам СПП накіраваў у расейскі МЗС афіцыйнае прадстаўленьне на ўзнагароджаньне юбіляра ордэнам «Дружбы народаў». У МЗС Расеі да гэтага паставіліся «з поўным даверам, увагаю і разуменьнем, — піша Аскоцкі. — Усе ішло звычайна ў такіх выпадках «бюракратычнаю» хадою, пакуль не падышла чарга запытаць думку беларускага МЗС. Вось тут і здарыўся збой. За два дні да юбілею пісьменьніка МЗС Расеі паведаміў выканкаму СПП, што ўзнагароджаньня Васіля Быкава не адбудзецца: з прычыны рашучага «не» беларускіх калегаў».

«Што ж здарылася? Няўжо яскравы талент Васіля Быкава — нацыянальны здабытак беларускага народу — не прызнаны на Бацькаўшчыне? Не. Званьне народнага пісьменьніка Беларусі ён носіць па праву аднаго з самых прызнаных і любімых майстроў слова. Проста чытацкая прыхільнасьць да яго не спадабалася чыноўнікам з замежнага ведамства Кебіча. Іх раздражнее ня толькі праўда, якую нясуць кнігі Васіля Быкава, але і ягоная грамадзкая, палітычная пазыцыя перакананага, стойкага абаронцы дэмакратыі, непрымірымага, бескампраміснага праціўніка таталітарызму любой формы. Так пазыцыя чыноўнікаў узяла верх над думкаю народу...»

*«Известия»*

З аднаго хлява, а падзяліць ня могуць

*Малюнак Сяргея ХАРЭЎСКАГА*

# Апошняя зброя — каўбаса

**На працягу апошняга тыдня перад выбарамі ў Маладэчне раптам зьніклі з крамаў мяса і каўбасныя вырабы.**

Тымчасам Маладэчанскі мясакамбінат працягваў спраўна працаваць, і ў ягоных сховішчах было даволі гатовай прадукцыі.

Кіраўнік справамі Маладэчанскага гарвыканкаму Валеры Костка лічыць, што гэта «перадвыбарчыя гульні» чыноўнікаў Савету Міністраў, якія вырашылі гэткім прымітыўным чынам націснуць на маладэчанскіх выбаршчыкаў, каб тыя адумаліся і падтрымалі Кебіча.

Аднак кіраўнік Маладэчанскага гархарчгандлю Мікалай Віньнікаў цьвердзіць, што крызыс быў выкліканы зьніжэньнем коштаў на каўбасныя вырабы. Гэта прывяло да павелічэньня вывазу каўбасы ў Расею. За словамі сп.Віньнікава, магчыма, такое зьніжэньне коштаў і правільна з пазыцыі кандыдата ў прэзыдэнты таварыша Кебіча, але пакупнікі разумеюць, што гэта толькі, да выбараў, а пасьля кошты ўзрастуць утрая. Таму прадукты і не даходзяць да паліцаў крамаў — яны раскупляюцца на шляху да прылаўкаў. Разам з тым сп.Віньнікаў не адмаўляе, што апошнімі днямі пастаўкі мяса й каўбасы ў маладэчанскія крамы зьменшыліся.

Язэп КРЫЎСКІ

# Рафінаваны пецярбурскі інтэлігент у Гарохавішчах

**Акурат напярэдадні выбараў вёску Гарохавішчы, што ў Акцябарскім раёне, наведаў праваслаўны сьвятар а.Віталій (дэпутат ВС Беларусі Радамысьльскі) — той самы, які некалі палка выступаў на мітынгах Беларускага Народнага Фронту.**

Айца Віталія прывезьлі на «казьле» мясцовыя камуністы. Да расчараваньня тутэйшых бабулек, а.Віталій Бога не чапаў: ён адрэкамэндаваўся як даверaная асоба Кебіча, якому і прасьпяваў акафіст.

Сутнасьць ягонага выступу перад мэханізатарамі і кантарскім людам зводзілася да наступнага: на маючых адбыцца выбарах трэба зрабіць правільна — абраць Кебіча. Ён чатыры гады трымае нас у найлепшых умовах у параўнаньні зь іншымі постімпэрскімі дзяржавамі. Гэта рашучы чалавек, які не пабаяўся нават пераступіць праз Канстытуцыю, каб падпісаць дамову з Расеяй. Новы хаўрус дзяржаваў — неабходнасьць. Пазьняк і Шушкевіч ненавідзяць Расею і расейцаў. За Пазьняком Польшча і каталіцкая царква. Шушкевіч спрыяў адкрыцьцю 300 касьцёлаў. Калі так будзе і далей — будзеце іспыты здаваць па-польску і гаварыць ды чытаць па-польску.

Айцец Віталій незадаволены таксама і цяперашняй моўнай сытуацыяй на Беларусі. «Мы хацелі правесьці рэфэрэндум па мовах, але гэты воўчы Вярхоўны Савет не дазволіў».

Астатніх прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкае крэсла бацюшка ахарактарызаваў так: Лукашэнка — фашыст. Ён раіцца з Жырыноўскім ды Баркашовым. Дубко — расквітнеў, абабраўшы суседнія калгасы (прысутным гэтая ідэя спадабалася). Новікаў — «обезьяна»...

Сольны выступ а.Віталія доўжыўся 35 хвілін, пакуль не падняўся адзін з прысутных і не пасароміў яго за подлы зман простага народу недарэчнымі казкамі пра Пазьняка і Шушкевіча. Яшчэ адзін чалавек пацікавіўся, чаму гэта айцец цяпер кажа зусім іначай, чым у 1990 годзе...

Словам, рафінаваны пецярбурскі інтэлігент, як ён сам сябе адрэкамэндаваў, паехаў з тым, з чым і прыехаў.

Высновa адна — Руская праваслаўная царква робіцца прытулкам чорнага расейскага імпэрыялізму. Мінулы досьвед яе нічому не навучыў, і яна зноў пашылася ў адкрытую палітыку.

І што ж? Пасьля агітацыі а.Віталія за Кебіча на Гарохавіцкім выбарчым участку прагаласавала ўсяго 13 чалавек.

Мікола БУСЕЛ

# Лукашэнка — „нацыяналіст". Але якой нацыі?

Адно з найбуйнейшых сусьветных агенцтваў навінаў Associated Press пашырыла інфармацыю пра вынікі першага туру прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, у якой гаворыцца, што зусім нечакана 45% галасоў атрымаў кандыдат, «вядомы сваімі крайнімі нацыяналістычнымі поглядамі».

Далей у паведамленьні адзначаецца, што Лукашэнка набыў агульнанародную славу і ляўры расейскага ультранацыяналіста Жырыноўскага дзякуючы сваім папулісцкім поглядам, шалёным нападкам на палітычных праціўнікаў і выкарыстаньню тэлевізійнага эфіру ў апошнія тыдні перадвыбарчай кампаніі.

В.Г.

# Пяцёра міліцыянтаў патрапілі за краты

**У Навагрудку заарыштаваныя пяцёра міліцыянтаў (адзін зь іх былы), якія абвінавачваюцца ў крадзяжах на суму каля 3 млрд. рублёў.**

На сьлед злачыннай групоўкі ўдалося выйсьці пасьля таго, як з Навагрудзкага заводу газавай апаратуры была скрадзеная партыя медных трубак (на 50 млн. руб.). Затрыманыя за гэта браты Феданякі прызналіся, што «працавалі» з дапамогаю міліцыі і назвалі прозьвішчы супрацоўнікаў тутэйшага РАУС.

Цяпер пад сьледзтвам знаходзяцца тры сяржанты патрульна-паставой службы, адзін опэрупаўнаважаны з аддзелу барацьбы з эканамічнай злачыннасьцяй і былы супрацоўнік РАУС. Кралі яны пераважна ўначы, выяжджаючы ў форме на прадпрыемствы і ў калгасы. «Рэкардсмэн» сярод іх — сяржант Жадзеўскі, які прызнаўся сьледзтву, што ўдзельнічаў у 18 крадзяжох.

Як цьвердзяць супрацоўнікі РАУС, гэтыя сяржанты былі ўзятыя на службу ў міліцыю зь нечай пратэкцыі. Дарэчы, шэф навагрудзкай міліцыі Ўладзімер Зьмітрэвіч нядаўна атрымаў палкоўніцкія пагоны. Віншуем!

Сяргей СТУЖКА

# Надзейныя заходнія аўтамабілі і бездапаможная беларуская міліцыя

**У Берасьцейскай вобласьці здарыўся выпадак, які чарговы раз засьведчыў нізкі прафэсійны ўзровень беларускай міліцыі.**

30-гадовы злачынца, пагражаючы нажом, захапіў у Берасьці машыну BMW, выкінуў гаспадара аўтамабіля і выехаў з горада на трасу Берасьце—Менск. Берасьцейскі пост ДАІ папярэдзіць не пасьпелі, і злачынец праскочыў яго бесьперашкодна. На посьце каля Жабінкі злачынца чакалі, паклалі на дарозе «вожыка», які, аднак, разьляцеўся ўшчэнт, абсалютна не пашкодзіўшы колы BMW.

На ўезьдзе ў Кобрынь машыну таксама не змаглі затрымаць, і на хуткасьці 150 км у гадзіну яна ўехала ў горад на праспэкт Дзяржынскага. На выезьдзе дарогу перагарадзілі міліцэйскім УАЗікам. Толькі гэткім чынам і ўдалося спыніць небясьпечнага кіроўцу. Ад абодвух машын мала што засталося. Цяжкую траўму галавы атрымаў малады сяржант міліцыі, які не пасьпеў адскочыць ад УАЗіка. А злачынца (ім аказаўся «залётны» жыхар Гарадзенскай вобласьці нехта Ламанік) амаль не пацярпеў, яго ўратавала канструкцыя BMW.

Калі ў такіх даволі ардынарных выпадках міліцыя дзейнічае гэтак бездапаможна (заўважце, два раёны нагул нічым не перашкодзілі злачынцу), дык што казаць пра больш складаныя сытуацыі.

Тымчасам, заўчора на шашы каля Менска мяне спынілі ДАІшнікі зь пісталетамі, якія хаваліся ў кустох пры дарозе — я перавысіў хуткасьць: стаяў знак «40», а я ехаў 48 км у гадзіну. Слава савецкай міліцыі!

Іван СІДАР

# Савецкі шпіён застанецца ў турме

**Ізраільскія ўлады пастанавілі, што 76-гадовы прафэсар Маркус Клінбэрг, асуджаны на 20 гадоў турмы за шпіянаж на карысьць Савецкага Саюзу, застанецца ў вязьніцы.**

Клінбэрг ужо адседзеў 11 гадоў, і апошнім часам стан ягонага здароўя значна пагоршыўся. Менавіта гэтым абгрунтоўвалася прапанова вызваліць яго. Клінбэрг быў адным з найвыдатнейшых спэцыялістаў у галіне бактэрыялягічнае зброі. Шмат гадоў ён быў намесьнікам дырэктара цэнтру навуковых дасьледаваньняў у Нэс Сіёна паблізу Тэль-Авіва. Гэты цэнтар абслугоўвае патрэбы ізраільскага войска. Клінбэрг нарадзіўся ў Польшчы і ў 1948 г. эміграваў у Швэцыю, а потым у Ізраіль. Яго арыштавалі па спатканьні ў Швайцарыі зь ягоным савецкім «карэспандэнтам». Інфармацыю пра ягонае затрыманьне й прысуд апублікавалі нядаўна.

В.Г.

# Колькі зарабляе выкладчык у ЗША?

**Згодна дасьледаваньню Амэрыканскай асацыяцыі ўнівэрсытэцкіх выкладчыкаў, сярэднія гадавыя заробкі супрацоўнікаў вышэйшых навучальных установаў ЗША вагаюцца ад $68 500 для ўнівэрсытэцкіх прафэсараў, што маюць права надаваць доктарскую ступень, да $29 630 для выкладчыкаў двухгадовых правінцыйных коледжаў.**

Для параўнаньня: згодна з Амэрыканскім бюро перапісаў, сярэдні гадавы заробак лекараў, юрыстаў і дантыстаў складае $59 459, асобаў з чатырохгадовай адукацыяй у коледжы, што атрымалі навуковую ступень, — $28 302 і асобаў з пяўнай адукацыяй у коледжы, але без ступені — $16 200.

***International Herald Tribune***

# Правакацыя ў Івацэвічах

**Увечары 19 чэрвеня на Івацэвіцкую газакампрэсарную станцыю патэлефанаваў невядомы ананім, які заявіў, што «ў 0.30 будзе ўзарваны газакампрэсарны цэх №3».**

На станцыю апэратыўна зьехалася міліцэйскае начальства, шэф тутэйшай пажарнай службы, КДБ. Усё было дэталёва агледжана, аднак нічога падазронага ня выявілі. На ўсялякі выпадак цэх №3 спынілі.

Абяцанага выбуху не адбылося. Міліцыя надалей шукае ананіма. Цікава, што ён зрабіў сваё правакацыйнае паведамленьне па-беларуску. Як мяркуюць работнікі станцыі, гэта было «спэцыяльна сказана па-беларуску, каб напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў кінуць цень на БНФ».

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

# Загінуў, ладзячы сьвятло

**У дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Мядзельскім раёне трагічна загінуў 54-гадовы электрык Тадэвуш Паўлючонак.**

У гэты дзень ён працаваў і заехаў па ўласнай ініцыятыве ў невялічкую вёску (4 хаты), дзе напярэдадні прапала электрычнасьць, каб наладзіць сьвятло. Неасьцярожная праца з высокім напружаньнем і прывяла да трагедыі.

М.Г.

# «Сувэніры» за мільярд рублёў

**Вядомая менская фірма «Дайнова», якая спэцыялізуецца на гандлі кампутарамі, цяпер будзе мець сваю «візытоўку» ў Берасьці.**

На аўкцыёне, які адбыўся на мінулым тыдні, «Дайнова» купіла краму «Сувэніры» за 1 млрд. рублёў. Фірма будзе прадаваць тут кампутарную тэхніку ды іншае электроннае начыньне.

Мірон ГОМАН



Верныя ленінцы на цэнтральным пляцы ў Чэрвені Менскай вобласьці

**Чаму газэту СВАБОДА цяжка знайсьці ў менскіх кіёсках?**

**Каго хвалюе гэтае пытаньне — тэлефануйце кіраўніцы менскага «Белсаюздруку» сп-ні Шаблоўскай, тэл. 26-16-37.**
**Пра гэта ведае таксама ейны «куратар» — намесьнік міністра культуры і друку сп.Карэнда, тэл. 23-26-84.**



## Праграма 8-га каналу

**Серада, 29 чэрвеня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
19.00 «Хіл-стрыт Блюз».
19.50 «Солтэк» прэзэнтуе: Навіны.
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 «Марэна Кляра». 38-я сэрыя.
21.20 «Хатні доктар».
21.50 «Чалавек з бульвару Капуцынаў».

**Чацьвер, 30 чэрвеня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.45 «Экспосэрвіс» запрашае...
19.00 «Лябірынт правасудзьдзя».
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 «Марэна Кляра». 39 сэрыя.
21.20 Спартовая праграма «Файт»: «Кікбоксынг».
21.40 Прыгоды... Дэтэктыў... «Тайна чорных драздоў».

**Пятніца, 1 ліпеня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
19.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Дорэміфасолькі».
19.15 Foxy music (паўтор).
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 «Марэна Кляра». 40-я сэрыя.
21.20 «Экспасэрвіс» запрашае...
21.35 Водэс. Сустрэча другая.
21.55 «Вяртаньне сакрэтных праціўнікаў».

**Субота, 2 ліпеня**

15.00 Мультсэрыял «Трансформэры».
16.00 Казаньнік Кенэт Коплeнд.
16.30 Прыгодніцкі сэрыял «Песьня кіта за 1.000.000 даляраў».
17.00 «Рымскае заваяваньне Брытаніі» з цыклу «Гістарычныя бітвы».
18.00 Опра Ўінфры шоў прэзэнтуе: Д.Хофман. М.Стрып.
19.00 Для вас, вэтэраны. «Тарпэданосцы». Маст. фільм.
20.30 «Праз дзесяць гадоў» з цыклу «Пані ўдача».
21.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Спартовая мазаіка».
21.30 Сем хвілін з «Хрыстафорам».
21.40 Асацыяцыя дзіцячай прэсы, «Белсаюзкантракт» прэзэнтуюць: «Фэстываль у Даманаве».
21.50 «Кветка жарсьці».

**Нядзеля, 3 ліпеня**

15.00 Мультсэрыял «Трансформэры».
16.00 Для вас, вэтэраны. «Узыходжаньне».
18.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Тэлефэн», «Вуліца».
18.30 Для вас, вэтэраны. «Яны сышлі зь нябёсаў».
19.45 Спорт-сакрэт.
20.00 Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
20.20 «Кветка жарсьці».
22.40 Foxy music.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 28.06.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 946 Наклад 35 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12